*Я вітаю рашэнне суда зняць усе абвінавачанні з Пачобута і спадзяюся, што гэта быў апошні выпадак, калі прадстаўнік СМІ зазнае крымінальны пераслед у Беларусі з-за сваёй прафесіі.*

*Дунья Міятавіч,*
*прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ*

*Выклікае глыбокую занепакоенасць тое, што ўлады ў Беларусі выкарыстоўваюць закон пра барацьбу з экстрэмізмам для цэнзуравання падборкі фотаздымкаў – пераможцаў з усёй Беларусі. Акрамя таго, адкліканне ліцэнзіі за выданне альбома, які толькі праз год прызналі экстрэмісцкім па надуманых прычынах, карае аўтарытэтнае выдавецтва за злачынства, пра якое яно на момант вытворчасці не магло ведаць.*

*Джім Бумела (Jim Boumelha),*
*прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі журналістаў*

*Заканадаўства, выкарыстанае для пазбаўлення паважанага агенцтва «Логвінаў» ліцэнзіі, – гэта грубае злоўжыванне з мэтай цэнзуравання фатаграфій і распаўсюджвання атмасферы страху сярод усіх супрацоўнікаў СМІ.*

*Могенс Бліхер-Бьерэгард (Mogens Blicher-Bjerregåard),*
*прэзідэнт Еўрапейскай федэрацыі журналістаў*



# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў СФЕРЫ СМІ Ў ЛІПЕНІ–ВЕРАСНІ 2013 Г.

- **Спыненне крымінальнага пераследу журналістаў С.Вазняка, А.Фядуты, І.Халіп і А. Пачобута;**
- **Ратрыманні і папярэджанні журналістаў;**
- **Пераслед інтэрнэт-актывістаў;**
- **Выкарыстанне заканадаўства пра супрацьдзеянне экстрэмізму для ўшчамлення свабоды выказвання поглядаў.**

## СПЫНЕННЕ КРЫМІНАЛЬНАГА ПЕРАСЛЕДУ ЖУРНАЛІСТАЎ

**У ліпені 2013 г. былі вызваленыя ад адбывання крымінальнага пакарання журналісты Сяргей Вазняк і Ірына Халіп, а таксама публіцыст і палітолаг Аляксандр Фядута, асуджаныя ў 2011 г. за ўдзел у акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. У верасні быў спынены крымінальны пераслед журналіста Андрэя Пачобута. Ва ўсіх выпадках вызваленне ад крымінальнага пакарання адбылося з прычыны заканчэння тэрміну ўмоўнага пакарання ці сканчэння яго адтэрміноўкі.**



**19 ліпеня** ад крымінальнага пакарання (два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання) была вызваленая жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп. Гэта адбылося з прычыны заканчэння адтэрміноўкі выканання прысуду. На працягу двух гадоў І.Халіп была вымушаная выконваць жорсткія абмежаванні, устаноўленыя судом (у прыватнасці, ёй было забаронена выходзіць з дому пасля 22 гадзінаў).

**23 ліпеня** статус асуджаных і судзімасць былі знятыя з А.Фядуты і С.Вазняка, якія працавалі ў перыяд прэзідэнцкіх выбараў у штабе яшчэ аднаго кандыдата ў прэзідэнты, Уладзіміра Някляева. У траўні 2011 г. яны былі прысуджаныя да двух гадоў пазбаўлення волі ўмоўна, прысуд набыў законную моц праз два месяцы, пасля разгляду касацыйнай скаргі асуджаных Мінскім гарадскім судом. 23 ліпеня тэрмін умоўнага пакарання А.Фядуты і С.Вазняка скончыўся.



**23 верасня** ад пакарання быў вызвалены беларускі карэспандэнт польскай «Gazety Wyborczej» Андрэй Пачобут, асуджаны ў ліпені 2011 г. за «паклёп на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» да 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Рашэнне пра вызваленне журналіста ад адказнасці ў сувязі з заканчэнннем адтэрміноўкі выканання прысуду прыняў суд Ленінскага раёна г. Гродна. А.Пачобут быў асуджаны 5 ліпеня 2011 г. і да суду правёў некалькі месяцаў за кратамі. Улетку 2012 г. супраць яго была ўзбуджаная новая крымінальная справа па абвінавачанню ў паўторным паклёпе на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аднак 15 сакавіка 2013 г. справа была спыненая ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства.

## ЗАТРЫМАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**З пачатку 2013 г. БАЖ зафіксаваў 25 выпадкаў затрымання журналістаў, 4 з якіх завяршыліся адміністрацыйнымі арыштамі на тэрмін ад 3 да 12 сутак. За перыяд, які разглядаецца, затрымліваліся як мінімум 7 журналістаў.**

**25 ліпеня** карэспандэнта аддзела ўнутранай палітыкі штотыднёвіка «Беларусы і рынак» Ігара Ільяша затрымала міліцыя і больш за гадзіну пратрымала ў Маскоўскім РУУС сталіцы, падазраючы ў здзяйсненні правапарушэння.

**26 ліпеня** ў беларускай сталіцы былі затрыманыя карэспандэнт недзяржаўнага агенцтва БелаПАН Захар Шчарбакоў, відэааператар БелаПАН Андрэй Кор-

сак і фотакарэспандэнт недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» Сяргей Гудзілін. У Корсака і Гудзіліна сцерлі ўсе зробленыя фота і відэа, паведаміў БелаПАН. Журналістаў затрымалі разам з удзельнікамі акцыі ў гонар абвяшчэння незалежнасці Беларусі 27 ліпеня 1990 года.

**14 верасня** ў Мінску міліцыя затрымала карэспандэнта «Радыё Свабода» Алега Груздзіловіча і журналістаў газеты «Наша Ніва» Ірыну Арэхоўскую і Ганну Бадзяка. Журналісты збіраліся асвятляць акцыю памяці асуджанага Ігара Пцічкіна, які памёр у следчым ізалятары. Журналістаў разам з удзельнікамі акцыі даставілі ў аддзяленне міліцыі, дзе ўзялі адбіткі пальцаў, выдалілі ўсе адзнятыя фота- і відэаматэрыялы і праз тры гадзіны вызвалілі.

## ПЕРАСЛЕД ІНТЭРНЭТ-АКТЫВІСТАЎ

**У ліпені–верасні 2013 г. узмацніўся пераслед інтэрнэт-актывістаў, уключаючы блогераў, каментатараў на форумах і г.д. У многіх выпадках гэта было ініцыявана дзяржаўнымі органамі ці іх пасадовымі асобамі.**



**У ліпені** суд Фрунзенскага раёна г. Мінска аштрафаваў за выказванні на форуме на 7 млн. рублёў (каля 600 еўра) драматурга Андрэя Карэліна. Гэта здарылася пасля таго, як А.Карэлін пакінуў на форуме партала tut.by два негатыўныя каментары ў адрас беларускай міліцыі і тая ўзбудзіла супраць яго адміністрацыйны працэс за знявагу пасадовай асобы пры выкананні ёй службовых абавязкаў. 26 жніўня драматург быў вымушаны звольніцца з тэатра, дзе працаваў загадчыкам літаратурна-драматычнай часткі. Паводле ягоных словаў, гэта адбылося пасля тэлефанавання з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Мінгарвыканкама дырэктару тэатра.

**8 жніўня** стала вядома, што супраць некаторых карыстальнікаў сайта pruzhany.net можа быць узбуджаная крымінальная справа за паклёп. Старшыня суда Пружанскага раёна (Брэсцкая вобласць) Уладзімір Саўчук не ўпадабаў каментары пад ад-

ным з артыкулаў на сайце і звярнуўся ў пракуратуру з патрабаваннем правесці праверку дзеянняў карыстальнікаў інтэрнэт-партала. У.Саўчук лічыць, што некаторыя з іх дапусцілі ў сваіх каментарах «паклёпніцкія здагадкі з абвінавачаннем у здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства» аднаго з суддзяў. Артыкул на pruzhany.net, пад якім з'явіліся каментары, называўся «Вынесена рашэнне суда наконт гібелі падлетка ў Пружанах». Многія каментатары былі абураныя рашэннем суда, які апраўдаў абвінавачанага.



**9 жніўня** на 7 сутак адміністрацыйнага арышту асуджаны Руслан Мірзоеў, аўтар нашумелых у Байнэце відэаролікаў «Хронікі завода» і «Хронікі раёна». Афіцыйна падставай для арышту стала нецэнзурная лаянка («дробнае хуліганства», артыкул 17.1 КоАП Беларусі), якая прагучала ў роліку «Хронікі раёна» (у ім аўтар паказвае нібыта паднаготную свайго раёна, бярэ інтэрв'ю ў «наркамана», «прастытуткі» і іншых персанажаў пастаноўкі). Між тым, як было агучана ў эфіры дзяржаўнага тэлеканала «АНТ», «тое, што галоўная прычына пакарання не лаянка, у пракуратуры не хаваюць». Са словаў супрацоўніка пракуратуры вынікае, што Р.Мірзоеў быў прыцягнуты да адказнасці за «маніпуляванне сацыяльнымі ці грамадскімі праблемамі».

Яшчэ адна крымінальная справа ў сувязі з размяшчэннем матэрыялаў у інтэрнэце можа быць узбуджаная ў Светлагорску (Гомельская вобласць). Пасля таго як мясцовы блогер і грамадскі актывіст Генадзь Жулега зняў і размясціў у сацыяльных сетках відэаролік пра дом старшыні Светлагорскага райвыканкама, жонка старшыні райвыканкама звярнулася ў міліцыю з патрабаваннем прыцягнуць Г.Жулегу да адказнасці. Яна лічыць, што гэтым ролікам блогер зняважыў гонар і годнасць яе сям'і, а інфармацыя на відэа носіць паклёпніцкі характар. **17 жніўня** міліцыя з санкцыі пракурора правяла агляд кватэры Г.Жулегі і канфіскавала ў яго кампутар. Міліцыянеры паведамілі, што пасля праверкі кампутара будзе разглядацца пытанне наконт прыцягнення блогера да адказнасці.

## ВЫКАРЫСТАННЕ ЗАКАНАДАЎСТВА ПРА СУПРАЦЬДЗЕЯННЕ ЭКСТРЭМІЗМУ ДЛЯ ЎШЧАМЛЕННЯ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ ПОГЛЯДАЎ

**У перыяд, які разглядаецца, улады працягнулі шырока выкарыстоўваць заканадаўства пра супрацьдзеянне экстрэмізму з мэтай ушчамлення свабоды выказвання поглядаў. Закон Рэспублікі Беларусь «Пра супрацьдзеянне экстрэмізму» дзейнічае з пачатку 2007 г. Сярод матэрыялаў, прызнаных экстрэмісцкімі, – кампакт-дыскі з запісам музычнага канцэрту «Салідарныя з Беларуссю» у Варшаве, польскі дакументальны фільм – лаўрэат міжнародных кінафестываляў «Lekcja Bialoruskiego» («Урок беларускай мовы») і дыскі з фатаграфіямі з акцый пратэсту ў Мінску пасля прэзідэнцкіх выбараў-2006.**

**Новая хваля справаў пра прызнанне матэрыялаў экстрэмісцкімі пачалася з альбома «Прэс-фота Беларусі – 2011». 20 верасня Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь пазбавіла ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць выдавецтва «Логвінаў», якое выпусціла гэты фотаальбом. У верасні на літоўска-беларускай мяжы беларуская мытня канфіскавала ў грамадзяніна для праверкі на экстрэмізм кнігу Валерыя Карбалевіча «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт». Канфіскаваная раней на той жа мяжы кніга беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай» ужо прызнаная экспертнай камісіяй «шкоднай для іміджу Рэспублікі Беларусь».**

**17 ліпеня** газета беларускага ўраду «Рэспубліка» апублікавала абноўлены «Рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў». Сярод іншых у ім фігуруе выданне «Прэс-фота Беларусі – 2011», якое суд Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці 18 красавіка 2013 года прызнаў экстрэмісцкім.




**41 асобнік альбома «Прэс-фота Беларусі – 2011» канфіскавалі ў фатографаў Юліі Дарашкевіч, Аляксандра Васюковіча і Вадзіма Заміроўскага 12 лістапада 2012 года на памежным пераxo-**

**дзе «Каменны Лог». У лютым стала вядома пра перадачу альбомаў у КДБ. Неўзабаве фатографы атрымалі адтуль афіцыйную паперу з выклікам у суд. Згодна з экспертызай, зробленай на замову КДБ ідэолагамі і выкладчыкамі Гарадзенскага ўніверсітэта, «падборка матэрыялаў фотаальбома ў сукупнасці адлюстроўвае толькі негатыўныя аспекты жыццядзейнасці беларускага народа... і падрывае давер да органаў улады з боку замежных дзяржаваў, замежных ці міжнародных арганізацый».**




**14 верасня** пры вяртанні з Літвы ў Беларусь у партыйнага актывіста Аляксандра Малочкі на мытні канфіскавалі кнігу беларускага журналіста і палітолага Валерыя Карбалевіча «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт» для праверкі на экстрэмізм. Экспертыза прызначаная на 30 верасня, на яе адведзена 20 дзён. Правядзенне яе даручана эксперту Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта. Начальнік гэтага ўпраўлення Павел Скрабко ўзначальваў камісію, якая прызнала экстрэмісцкімі матэрыяламі альбом «Прэс-фота Беларусі – 2011».

**20 верасня** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне пра спыненне дзеяння ліцэнзіі на права ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці, выдадзенай выдавецтву «Логвінаў». Нагодай для гэтага стаў выпуск выдавецтвам фотаальбома «Прэс-фота Беларусі – 2011», які рашэннем суда Ашмянскага раёна быў прызнаны экстрэмісцкімі матэрыяламі.

**Выдавецтва «Логвінаў» з'яўляецца адным з флагманаў у справе выдання беларускай літаратуры.**

# РЭЙТЫНГІ, ІНДЭКСЫ, СТАТЫСТЫКА

Паводле пілотнага «Індэкса свабоды медыя Ўсходняга партнёрства» Беларусь – самая праблемная сярод шасці краінаў-удзельніцаў праекта.

**Даследаванне было праведзена ў рамках праекта ENP EaP Media Freedom Watch. Зводны індэкс рыхтаваўся на аснове апытанняў дзесяці медыяэкспертаў у кожнай з шасці краінаў Усходняга партнёрства: Азербайджане, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне. Індэкс вызначае ступень выканання асноўных правоў і свабодаў журналістаў у рэгіёне.**



Па ўсіх чатырох блоках пытанняў – «Палітыка», «Практыка», «Тэлерадыёвяшчанне» і «Інтэрнэт і новыя медыі» Беларусь, на думку экспертаў, паказала найгоршыя вынікі.

